ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР

**Антибашистская газета**

*Башизм - «Репрессивный режим, направленный на подавление прогрессивных общественных движений, на уничтожение демократии».*

С.И.Ожегов, «Толковый словарь руского языка», на букву «Ф»

№ 16, апрель 2007г.

# ПОПЕЛ ЧАРНОБЫЛЯ...

**У ноч з суботы на нядзелю 26 красавіка 1986 г. аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі (ЧАЭС) падзяліла гісторыю Беларусі на да- і паслячарнобыльскі перыяды.**

*За аддаленасцю па часе і паўсядзённымі клопатамі падзея губляе вастрыню нават для тых, хто быў яе сучаснікам. Для паслячарнобыльскага пакалення 21 год – цэлае жыццё, а падзеі 1986 года – далёкая мінуўшчына. Аднак мэта артыкула не ў тым, каб аднавіць гісторыю аварыі альбо яшчэ раз узняць пытанне "Хто вінаваты?". Пра гэта напісана шмат і падрабязна.*
*Аўтар звяртае ўвагу на вынікі аварыі і паводзіны тагачаснага кіраўніцтва Беларусі. Рашэнні ўладных асобаў паўплывалі на жыцці многіх людзей.*

Аварыя мела глыбінныя прычыны, якія караніліся ў тэхнічным адставанні СССР і сур'ёзных пралiках у развіцці атамнай энергетыкі. Непасрэдна 26 красавіка ў выніку непрадуманых дзеянняў дзяжурнай змены (суб'ектыўны фактар) пры наяўнасці слабасцяў у канструкцыі рэактара (аб'ектыўны фактар) адбыўся выбух на чацвёртым энергаблоку ЧАЭС. Разбурэнне рэактара прывяло да выкіду ў паветра велізарнай колькасці радыеактыўных рэчываў, якія паветранымі плынямі сталі хутка распаўсюджвацца на абшары Еўропы.

Непасрэдна ад выбуху ўздзеянню радыяцыі падверглася паўднёвая частка Беларусі. Некаторыя спецыялісты сцвярджаюць, што Беларусь пацярпела не столькі ад самой аварыі, колькі ад бяздзеяння кіраўніцтва былога СССР і ўгодніцтва беларускіх уладаў. Яны ў першыя дні абралі тактыку ўмаўчання, каб схаваць ад міжнароднай супольнасці сам факт аварыі. Тым самым замарудзілі арганізацыю дзеянняў для зніжэння яе адмоўнага ўплыву на насельніцтва.

Акадэмік В.Легасаў, які ў той жа дзень з групай спецыялістаў вылецеў з Масквы ў Чарнобыль у сваіх пасмяротных нататках зазначыў: "Мы зразумелі, што адбылася катастрофа планетарнага маштабу" (пазней акадэмік пакончыць жыццё самагубствам). Але, як успамінае былы начальнік хімічнай службы ВПС беларускай ваеннай акругі Г.Лапацін, нават Легасаў спачатку не паверыў таму, што паказалі прыборы рэгістрацыі ўзроўню радыяцыі.

На другі дзень аб рэзкім павышэнні радыяцыйнага фону ў паветранай прасторы сваіх краінаў загаварылі прадстаўнікі Швецыі, Нарвегіі, Англіі і інш. Толькі пасля гэтага афіцыйныя СМІ СССР сціпла паведамілі аб аварыі, у выніку якой адбылося «некаторае павышэнне радыяцыйнага фону». Папулярны на той час савецкі публіцыст Генрых Баравік па саюзным тэлебачанні нават заявіў, што ёсць "ЧернобЫЛЬ", а на Захадзе ствараецца "черно-МИФ" аб аварыі. "н не мог прадбачыць, што рэальнасць сталася страшней за міф.

Тэрыторыя інтэнсіўнага забруджвання хутка значна павялічылася пераважна па прычыне мэтанакіраванага асаджэння спецрэагентамі радыенуклідаў з радыеактыўных аблокаў. Тыя аблокі, якія ішлі праз Беларусь у паўночна-заходнім накірунку ад Чарнобыльскай атамнай станцыі, былі асаджаны на тэрыторыі Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Пазней, калі паветраныя плыні павярнулі ў бок Масквы, раденукліды былі асаджаны над Магілёўскай вобласцю. Аб гэтым, дарэчы, паведамлялася ў прэсе яшчэ ў 1994 годзе.

У Крамлі заўсёды адмаўлялі, што над Беларуссю стваралiся штучныя дажджы пасля Чарнобыльскай катастрофы. Цяпер гэта адмаўляць проста немагчыма. Шматлікія сведчанні таго, што саюзнае кіраўніцтва выкарыстала "штучны дождж", каб радыёактыўныя часціцы не аселі на тэрыторыі Расіі, сабраў супрацоўнік Кінгстанскага ўніверсітэта ў Лондане доктар Алан Флаўэрс, які на працягу 12 гадоў праводзіў даследаванні ў забруджаных зонах. Фактаў стала вядома столькі, што 23 красавіка тэлеканал BBC2 паказаў дакументальны фільм пра ролю савецкіх паветраных сілаў у прадухіленні распаўсюджвання радыеактыўнага забруджвання на тэрыторыю Расеі пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС у 1986-м годзе.

Непасрэдны ўдзельнік гэтай аперацыі маёр савецкіх ВПС Аляксей Грушын ў 2006 годзе успамінаў: "Вецер дуў з захаду на ўсход і радыеактыўныя аблокі пагражалі дасягнуць Масквы, Варонежа, Ніжняга Ноўгарада, Яраслаўля. Калі б дождж прайшоў над гэтымі гарадамі, гэта было б катастрофай для мільёнаў".

Так саюзнае кіраўніцтва ў чарговы раз прадэманстравала сваё разуменне Беларусі як буфернай зоны для Расіі. У выніку каля 6400 квадратных кіламетраў тэрыторыі Беларусі былі прынесены ў ахвяру, каб забяспечыць найперш бяспеку Масквы. Выкарыстанне тэрыторыі Беларусі ў якасці адстойніка была б немагчыма, калі б наша краіна ўжо тады была незалежнай.

Старэйшыя жыхары Горак, магчыма, памятаюць, як у ноч на пачатку траўня 1986 год гудзелі самалёты і прайшоў дождж. А раніцою на асфальце стаялі лужы, пакрытыя жаўтаватым налётам. Людзі здзіўлена пазіралі і казалі, што гэта, мабыць, пыльцу з вербаў ветрам надула (тады якраз распусцілася вярба, "коціказў" было шмат). Потым стала вядома, што разам са спецрэагентамі, каб выклікаць дождж, прымянялася звычайная даламітавая мука і іншыя матэрыялы для "захопу" радыёнуклідаў. Горкам пашанцавала: калі верыць афіцыйнай інфармацыі, істотнага павышэння фону не адбылося.

*Працяг на ст.3*

*Мнение экономиста*

# Приказано – верить



*Андрей ЮРКОВ*
*Тел.623 61 08*

Именно такие мысли возникают, когда анализируешь результаты работы экономики страны, приведенные Минстатом на пресс-конференции девятнадцатого апреля. Как нам сообщили, ВВП (валовый внутренний продукт) в первом квартале вырос на 8,4%. Кому от этого стало лучше – мне неведомо. Может тем чиновникам, что эти цифры вывели и, как всегда, научно обосновали, хоть премию выплатят. Средний же заработок, что значительно интереснее, составил за январь-февраль 616 тыс. руб. (287 долларов). Но на то он и средний, чтобы сложив зарплату одного депутата палаты представителей и десятка пролетариев, в среднем получить пристойные цифры. Ведь даже в последних статданных районного ЦСУ, опубликованных на страницах «ЛШ», то ли районные статисты, то ли кто-то сверху, постеснялись выдать народу «секретные» цифры – заработки колхозников. Стыдиться тут приходится не самого заработка сельхозработника (в среднем 345 тысяч), а его отставания от среднего по стране почти в два раза.

В самом деле – сколько лет уже существуют (и, как нам говорят, работают) программы по возрождению деревни, какие огромные бюджетные средства закачиваются в колхозы, как шикарно гуляют тысячи людей на «Дожинках», как самоотверженно сражаются с урожаем и надоями наши вертикальщики, а заплатить достойный заработок трактористу, полеводу, или доярке никак не получается. И главное, все, и в первую очередь – чиновники, боятся даже подумать – «ПОЧЕМУ?». При этом они по-прежнему растят ВВП.

А меж тем, прибыльность по стране сократилась в сравнении с 1-м кварталом прошлого года на 6,6%. Рентабельность за тот же период снизилась с 13,6 до 11,2 процента. Отрицательное же внешнеторговое сальдо достигло за январь-февраль (данные за март пока не озвучены) – 659 миллионов долларов.

И в то же время мы слышим, что профицит бюджета составил за первые два месяца рекордную цифру – 1,8 триллионов рублей. Нам бы радоваться, если бы не определенные «но». Например, поставки нефти из РФ в первом квартале сократились на четверть, и наоборот – поставка мяса из Беларуси в Россию уменьшилась на 20%. Профицит же создался за счет увеличения экспортных ставок по нефтепродуктам до уровня российских. Деньги же эти взысканы в бюджет с наших же заводов, которые сейчас обескровлены финансово и вынуждены свертывать программы по техническому перевооружению. По большому счету – какая разница, были ли эти деньги на заводах, или забраны в бюджет? Нефти-то, как и денег за ее переработку, стало на 25% меньше!

Да и сами по себе большие деньги в бюджете при таком огромном дефиците внешнеторгового сальдо – страховка слабая. Ну, хорошо – «зайчиков» напечатали и в бюджет собрали. Ну, хорошо – «зайчиков» напечатали и в бюджет собрали. Но за них не купили ни нефти, ни газа, ни импортной техники. Разве только свою колбасу можно за 20000, или «Горизонт», собранный из китайских комплектующих и стоящий дороже, чем готовый, китайской же сборки «Самсунг». А ведь для импорта нужна валюта, которой и у Нацбанка не так уж много, и предприятия с банками ее имеют недостаточно. Повторяю – внешнеторговое сальдо отрицательное.

Вот почему из уст высших чиновников страны в последнее время все громче и громче звучит: « Не допустим обвала! Народ будет жить достойно!» А сами руководители понемногу готовят отмену льгот населению. И тут прав А.Лукашенко, который отменяет льготы не своим указом, или декретом, а, как опытный хоккеист, отпасовывает эту возможность депутатам палаты. Я думаю, что ему самому интересно, попробует ли хоть кто-нибудь из них публично вступиться за народ. Поживем – увидим, а пока же советую всем вспомнить советскую закономерность: как только правительство начинает говорить, что все стабильно, будет еще лучше, и ухудшения не допустим – жди беды.

Что делать, чтобы избежать такой доли? Не так уж много сначала. Главное – добиться нормальных отношений с нашим самым близким соседом – Евросоюзом – крупнейшей экономикой в мире. Да и просит он немногого – хотя бы выпустить политзаключенных. Пока же в июне там будет приниматься решение об экономических санкциях против Беларуси. Они в основном касаются квот на ввоз страны Евросоюза нашей продукции легкой промышленности.

Не знаю, какую такую опасность для наших властей представляет Козулин, или 24-летний Дашкевич, но думаю, что значительно меньшую, чем угроза потери работы десятками тысяч наших женщин – швей, или ткачих. Хотя, конечно, я могу ошибаться, поскольку пока мы с вами, уважаемые обыватели, реально не участвовали в формировании власти в нашей стране, возможно теперь и неправильно понимаем государственные интересы.

*Андрей ЮРКОВ*
*Тел. 623 61 08*

## ПОПЕЛ ЧАРНОБЫЛЯ...

*Пачатак на ст.1*

Затое іншыя раёны падвергліся сапраўднай "атамнай бамбардыроўцы". На тэрыторыю Беларусі прыпала 70% усяго радыеактыўнага забруджвання (астатнія 30 – на тэрыторыю Украіны і часткова Расіі). У гэтай зоне апынулася каля 2 млн. 100 тыс. чалавек (амаль 25% беларускага насельніцтва).

Зараз, праўда, некаторыя спецыялісты абвяргаюць гэтыя факты.

Ганебна і безадказна ў адносінах да насельніцтва Беларусі паводзіла сябе вышэйшае кіраўніцтва БССР. Сапраўднымі антыгероямі сталі першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М.Слюнькоў, старшыня Савета міністраў М.Кавалёў, міністр аховы здароўя М.Саўчанка. Хаця памеры катастрофы станавіліся ўсё больш відавочнымі, яны і падначаленыя ім асобы працягвалі хаваць ад насельніцтва праўду. Напрыклад, 23 мая 1986 г., амаль праз месяц пасля катастрофы, газета ЦК КПБ "Советская Белоруссия" надрукавала абсалютна супакойваючы артыкул М.Саўчанкі. У пачатковы перыяд аварыі кіраўніцтва рэспублікі нават адмовілася ад сродкаў, якія выдзяляў саюзны цэнтр для ліквідацыі гэтай бяды. Не звярнулася яно за дапамогай і да міжнароднай супольнасці.

Настойлівыя прапановы спецыялістаў прыняць неадкладныя захады па ажыццяўленні прасцейшых мерапрыемстваў для аховы насельніцтва натыкаліся на патрабаванне "не ўздымаць панікі".

Праза тры гады пасля выбуху ў Чарнобылі народнымі дэпутатамі СССР была рассакрэчана перапіска Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР з урадам Беларусі, пісьмы ў Міністэрства аховы здароўя, Гідрамет СССР і ЦК КПСС, якая склала чатыры тамы па 250 аркушаў кожны. Вось што паведамляў былы дырэктар Інстытута прафесар В.Несцярэнка першаму сакратару ЦК КПБ М.Слюнькову: "...з неабходнай апаратурай радыяцыйнага кантролю (28 красавіка 1986 года – рэд.) мы выехалі ў накірунку Бабруйска. На 23 км за Бабруйскам (у напрамку Мазыра) памер дозы 5000 мкР/гадзіну; далей Калінкавічы, Хойнікі – 18000 мкР/гадзіну; Брагін – 30000 мкР/гадзіну. Вяртаемся ў Мазыр – 10000мкР/гадзіну; Нароўля - 28000 мкР/гадзіну". Даклад навукоўцы сустрэў адказ высокага партфункцыянера: "Не надо устраивать паники!".

Усе прапановы беларускіх навукоўцаў аб неадкладным высяленні людзей за 100-кіламетровую зону ад ЧАЭС і правядзенні ёдавай прафілактыкі (а лік ішоў на гадзіны) былі адкінуты. Дайшло да таго, што аднойчы прафесара В.Несцярэнку і прэзідэнта АН Беларусі М.Барысевіча проста выставілі з залы паседжання ЦК КПБ. Каб не перашкаджалі партыі і ўраду клапаціцца пра беларусаў.

Вось як вядомы беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч узгадваў у сваіх дзённікавых запісах той час: "Калі 2 чэрвеня 1986 г. я быў у Слюнькова па чарнобыльскіх справах, ён з захапленнем расказваў, як быў ім і Кавалёвым задаволены Рыжкоў (старшыня СМ СССР – рэд.), што яны, у адрозненне ад украінцаў, нічога не просяць, а гатовыя нават палівальныя машыны аддаць Кіеву. Вось там я зразумеў канчаткова: уся гэтая партыя можа толькі гулагі будаваць, вялікія ці малыя. Але рэспубліканская кампартыя – гэта яшчэ жахлівей. І калі яны будуць заўтра замест Маскоўскай партакратыі навязваць сябе – маўляў, мы таксама беларусы, мы за самастойную камуністычную Беларусь, не верце ім…".

Свае "слюньковы" былі на ўзроўні абласцей, раёнаў і нават сельсаветаў. Сёння можна запытацца, чаму кіраўнікі Гомельскай і Мінскай абласцей (першыя сакратары абкамаў КПБ Камай і Малафееў) нават 1 мая, амаль праз тыдзень пасля выбуху, дазволілі вывесці дзяцей на святочныя дэманстрацыі?

Праўда, былі факты і іншага кшталту. Вось выпадак, з якім аўтар гэтых радкоў сутыкнуўся асабіста. Так здарылася, што напрыканцы красавіка я знаходзіўся на лячэнні ў абласной бальніцы ў Магілёве. 26 красавіка свяціла яркае сонца, некаторыя самыя нецярплівыя з пацыентаў нават выйшлі на бальнічны двор загараць. А ў панядзелак, 27-га, дзесьці каля 10 гадзін раніцы, адна добра знаёмая супрацоўніца бальніцы запытала, ці не ведаю я чым выклікана цікавае распараджэнне, якое паступіла ў дзіцячыя садкі. Перад працаю яна адвезла сваіх дзяцей ў садок, дырэктар якога паведаміла, што атрымана тэлефоннае распараджэнне: дзяцей на прагулку не выводзіць, фортки не адкрываць.

Канечне, мяне гэта зацікавіла. Ведаючы, што такое распараджэнне не магло прайсці міма партыйнага кіраўніцтва, я пры сустрэчы з былым першым сакратаром Магілёўскага абкама КПБ Васілём Лявонавым прама спытаў: хто рызыкнаў даслаць такую тэлефанаграму?

Са слоў В.Лявонава гэта было так: атрымаўшы паведамленне аб аварыі, першыя асобы вобласці (сярод іх быў і генерал КДБ, прозвішча якога я, на жаль, не запісаў), прыхапіўшы некалькіх магілёўскіх спецыялістаў і прыборы, выехалі за горад і ў розных месцах правялі замеры. Лічбы забыліся, але яны былі вельмі трывожнымі. Па словах В.Лявонова, менавіта генерал КДБ прапанаваў употай папярэдзіць хаця б дзіцячыя ўстановы, не раскрываючы прычыны. Адпаведнае рашэнне было санкцыянавана В.Лявонавым. Вось так...

Развіццё падзей прымусіла кіраўніцтва рэспублікі прыняць 4 мая 1986 г. рашэнне аб адсяленні насельніцтва з 30-кіламетровай зоны навокал ЧАЭС, у першую чаргу з Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў. Да канца года ў чыстыя месцы было адселена 27,7 тыс. чалавек. На Украіне, дзе плошчы забруджвання былі значна меншыя, адсялілі каля 100 тыс. Да таго ж былі дапушчаны сур'ёзныя памылкі ў справе арганізацыі работы, інфармавання насельніцтва, забеспячэння яго прасцейшымі сродкамі абароны ад радыяцыі, прыборамі кантролю і дазіметрыі, аховы маёмасці і г. д.

Жудасным выглядае той факт, што праз некаторы час вышэйшае саюзнае кіраўніцтва прынімае рашэнні па рээвакуацыі (вяртання назад у 30 кіламетровую "чорную" зону) часткі насельніцтва. Вось некалькі вытрымак з дакументаў:

Старшыня Гідрамета СССР акадэмік Ю.Ізраэль у сакрэтнай запісцы ад 10 траўня 1986 года паведамляў у Палітбюро ЦК КПСС: "Территории с уровнем радиации более 5 мР/час (...) признаны опасными для проживания населения. (...) На территории с уровнем радиации менее 5 мР/час требуется введение жесткого контроля за радиоактивностью продуктов питания, особенно молока".

Праз паўтара месяцы, 23 чэрвеня 1986 г., іншае: Секретно. <...> Заключение о возможности возвращения детей и беременных женщин в районы, где уровни радиации находились в пределах от 2 до 5 мР/час.

1. Разрешить реэвакуацию (возвращение) детей и беременных женщин во все населенные пункты, где общая расчетная доза не будет превышать 10 бэр за первый год (всего 237 населенных пунктов), а там, где расчетные дозы облучения (без ограничения потребления загрязненных продуктов превысят 10 бэр, с первого октября 1986 года (174 населенных пункта). (...) Израэль, Буренков, Александров".Нагадаем, для цяжарных жанчын і дзяцей ледзь меншую дозу ў 5 мР/гадзіну (!) чамусьці палічылі нармальнай.

Падыходы да вынікаў аварыі пачалі змяняцца пасля першых альтэрнатыўных выбараў Вярхоўнага Савета БССР 1989 г. Вялікую ролю ў гэтым адыграў узнікшы на Беларусі шырокі грамадска-палітычны рух Беларускі народны

*Заканьчэньне на ст.4.*

*«РАДЫЕ СВАБОДА»*

## Беларускія хакеісты не паедуць на расейскі чэмпіянат

***Беларуская хакейная каманда ня будзе браць удзелу ў чэмпіянаце Расеі.***

Такое рашэньне прынята падчас нарады ў кіраўніка Беларусі. Паводле прэзыдэнцкай прэсавай службы, падчас абмеркаваньня былі выказаны розныя пункты гледжаньня адносна магчымага ўдзелу Беларусі ў расейскім чэмпіянаце. Аднак сапраўды важкіх аргумэнтаў на карысьць такога рашэньня, не было.

---

## Зьбіраюць подпісы супраць скасаваньня льготаў навучэнцам і студэнтам

***Палата прадстаўнікоў разгледзіць законапраект аб скасаваньні льготаў некаторым катэгорыям насельніцтва. З ініцыятывы Саўміну плянуецца адмяніць палажэньне, паводле якога дзеці да трох гадоў атрымлівалі лекі бясплатна. Рэвізія закране й навучэнцаў школаў, вучэльняў і студэнтаў ВНУ — у іх хочуць забраць 50-працэнтную зьніжку на праезд у грамадзкім і прыгарадным транспарце. Працягваецца й кампанія збору подпісаў супраць уладнай ініцыятывы. За працай адной з групаў у двары Белдзяржуніверсытэту назіраў наш карэспандэнт.***

Гэта быў той выпадак, калі ініцыятарам збору подпісаў не даводзілася доўга тлумачыць сутнасьці пытаньня.

Студэнты самі скіроўваліся да людзей з падпіснымі тэчкамі:

Студэнт: "Калі адменяць ільготы, то ўдвая падаражэе праезд. І студэнтам з такой стыпэндыяй гэта проста ўдарыць па кішэні. Кіраўніцтва нашай дзяржавы заяўляе, што нібыта будуе сацыяльна арыентаванае грамадзтва. Але з такімі падыходамі зусім не падаецца, што гэта ўсё для людзей, каб ім было лепш".

Карэспандэнт: "Стандартная стыпэндыя ў студэнтаў якая?"

Студэнт: "Сам я вучуся на платным аддзяленьні, але стыпэндыя ў БДУ каля 100—110 тысяч. Але яна лічыцца высокай у параўнаньні зь іншымі ўнівэрсытэтамі".

Студэнт: "У гарадзкім транспарце мы звычайна і так "зайцамі" езьдзім, калі мэтро ня ўлічваць. Тым, хто езьдзіць мэтро, вядома, кепска. Але тое, што ў выходныя хочуць прыбраць зьніжкі на цягнікі, то гэта вельмі дрэнна.

Мы, прыкладам, географы — часта езьдзім, вандруем у той жа Віцебск ці Магілёў. Цяпер ільготны 7 тысяч рублёў, а будзе 15 тысяч. Гэта ўжо касьмічныя сумы, і ў такім разе будзем сядзець на месцы. Што да стыпэндыі, то яе на 5 тысяч паднялі, але калі павелічэньне адбудзецца, то гэтыя 5 тысяч не кампэнсуюць абсалютна нічога".

Карэспандэнт: "Наколькі для вас такое падвышэньне можа быць істотным?"

Студэнтка: "Для менскіх, можа, і не асабліва адчуецца. Але вось іншагароднія адчуюць гэта вельмі. У нас зь іншых рэгіёнаў шмат народу, і для іх гэта будзе катастрафічна. Шмат у каго яшчэ і праблемы з інтэрнатам — незаселеныя, езьдзяць дадому, і таму самі ўявіце, як гэта вытрымаць".

Пратрымацца зборшчыкам подпісаў супраць скасаваньня льготаў на праезд удалося крыху меней за гадзіну.

У суправаджэньні аднаго з кіраўнікоў унівэрсытэцкай суполкі БРСМ зьявіўся прадстаўнік службы бясьпекі БДУ і заявіў, што не дазволіць тварыць "безобразие" на тэрыторыі ВНУ.

Ахоўнік сказаў, што самадзейны збор подпісаў мае "зьдзеклівы характар" і параіў ладзіць акцыі за межамі БДУ. Бээрсээмавец падтрымаў калегу, удакладніўшы, што нельга выказваць нязгоду "шляхам заклейваньня плякатам сьцяны ўнівэрсытэту".

Між тым, адна з ініцыятарак кампаніі збору подпісаў Валерыя Саўчанкава задаволеная першым днём кампаніі, прававую падтрымку якой аказаў Беларускі Хэльсынскі камітэт:

Саўчанкава: "У прынцыпе, было чакана, што нас прагоніць ахова — маўляў, гэта тэрыторыя ўнівэрсытэту. Зь іншага боку, гэта месца вялікага збору моладзі, і калі мы зьбіраем подпісы менавіта сярод моладзі, то дзе ж нам тады зьбірацца, як, прыкладам, ня тут?"

Карэспандэнт: "І колькі словаў пра першыя вынікі..."

Саўчанкава: "За гадзіну подпісаў — ну колькі? У адной толькі мяне ўжо пяць аркушаў. Так што болей за сто подпісаў сабрана. Народ рэагуе вельмі актыўна. Зь дзесяці сем чалавек рэагуюць, а тое і восем".

Пра намер скасаваць ільготы спачатку заявілі ў апараце Саўміну, а 12 красавіка падчас сустрэчы з журналістамі гэта пацьвердзіў і Аляксандар Лукашэнка.

## Лідзкія камунальнікі змагаюцца з сатэлітнымі антэнамі

***На пад'ездах лідзкіх шматпавярховікаў з сатэлітнымі антэнамі зьявіліся аб'явы. Камунальныя службы патрабуюць прыбраць антэны спадарожнікавага тэлебачаньня. У Лідзкай жыльлёва-камунальнай гаспадарцы сьцьвярджаюць, што антэны на гаўбцах і сьценах дамоў парушаюць правілы эксплюатацыі жылых дамоў.***

Жыхар аднаго зь мікрараёнаў Ліды Сяргей Коваль згадвае, што патрабаваньні зьняць сатэлітныя антэны прагучалі год таму.

Гэта было якраз напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, але пазьней справа быццам заціхла. І вось раптам ізноў пачаліся тэлефанаваньні з ЖЭСу да ўладальнікаў талерак.

"Ізноў патэлефанавалі з ЖЭСу й запрасілі прыйсьці, каб зрабіць мне папярэджаньне, а калі й пасьля гэтага я не здыму спадарожнікавай антэны, мяне аштрафуюць на 15 базавых адзінак, што каля 700 даляраў", — апавёў лідчук Сяргей Коваль.

У лідзкім ЖЭСе №3 ведаюць пра гэтую праблему. Старэйшы майстар Тэрэза Лазоўская спасылаецца на загад, які прыйшоў з абласной жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, а таксама на інструкцыю Лідзкай ЖКГ. Згодна зь ёй, забараняецца выкарыстоўваць прыватныя сатэлітныя антэны.

На тэрыторыі ЖЭСу №3 знаходзіцца каля двухсот прыватных спадарожнікавых антэнаў.

Выканаўца абавязкаў начальніка ЖЭСу спадар Аршанскі кажа, што загаду зьверху давядзецца падпарадкавацца:

"Адразу папярэджваем, потым вывешваем аб'яву, калі людзі ня здымуць, будзем здымаць".

Намесьнік старшыні Лідзкай жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Віктар Вайтулевіч зазначыў, што падобныя антэны забаронена замацоўваць на дамах без дазволу. Гэтае правіла яшчэ 1990 году, але ўжо сямнаццаць гадоў гаспадарчыя службы не зьвярталі на яго ўвагі.

Пытаюся ў спадара Вайтулевіча: чаму менавіта цяпер зьявіліся такія патрабаваньні?

"А як яе там замацавалі, гэтую антэну, ніхто ж не рабіў аніякага праекту, ніхто ж ня ведае, наколькі яна надзейна замацаваная. А калі яна зваліцца на галаву?.."

Да ўсяго спадар Вайтулевіч лічыць, што антэны псуюць выгляд вуліцаў, дый не разумее — навошта людзям прыватныя антэны, калі ва ўсім горадзе ёсьць кабэльнае тэлебачаньне й там можна пабачыць да трыццаці праграмаў.

Пытаюся: ці даўно ў Лідзе назіраецца такая цікавасьць да сатэлітных антэнаў?

"Недзе апошнія два-тры гады. Папросту нейкі ўсплёск з гэтымі талеркамі атрымаўся", — кажа Ватулевіч.

Уласьнік прыватнай спадарожнікавай антэны Сяргей Коваль лічыць, што такім чынам улады спрабуюць абмежаваць права на атрыманьне інфармацыі. Усе тэлеканалы, якія трансьлюе дзяржаўная фірма "Гарант", знаходзяцца пад кантролем. Сяргей нават зьбіраецца судзіцца зь мясцовымі камунальнікамі:

"Хацеў бы стварыць прэцэдэнт, і калі б дазвалялі сродкі наняць адваката, можна было б падаць пазоў на камунальнікаў. Лічу, што яго можна было б выйграць у судзе".

*«Радыё Рацыя»*

# А. Мілінкевіч падвёў першыя вынікі паездкі ў чарнобыльскія раёны

**Паводле Аляксандра Мілінкевіча, «палітыка рэжыму вядзе да яшчэ больш цяжкай сытуацыі, паглыбляе праблемы. Павялічваецца колькасьць ахвяраў непрадуманай палітыкі і фальшывых сацыяльных гарантыяў».**

Аб гэтым, як перадае прэс-служба Мілінкевіча, палітык заявіў сёньня ў Гомелі. Мілінкевіч адзначыў таксама шэраг, на ягоную думку, галоўных праблемаў і памылак улады ў галіне мінімізацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

— На сёньняшні дзень можна казаць пра тое, што ўлада не прымае дастатковых мераў па ўвядзеньні тэхналёгіяў, якія дазваляюць вырабляць на забруджаных тэрыторыях умоўна чыстыя прадукты харчаваньня, — сказаў палітык. — Вырашчаная на гэтых тэрыторыях сельскагаспадарчая прадукцыя абмежавана правяраецца на наяўнасьць радыёнуклідаў. Людзям няма чым замяніць небясьпечныя прадукты харчаваньня, у выніку ў арганізме назапашваецца радыяцыя.

Мілінкевіч лічыць, што на забруджаных тэрыторыях вострa стаіць праблема паляпшэньня сыстэмы аховы здароўя. Ва ўмовах недастаткова актыўнай прафіляктыкі шмат тых, хто мае патрэбу, не атрымліваюць прэпаратаў, якія блякуюць радыёнукліды і выводзяць іх вонкі. На думку палітыка, адным з фактараў пагаршэньня агульнай сытуацыі ў Чарнобыльскай зоне зьяўляецца адсутнасьць дастатковых сродкаў на зьмяншэньне нэгатыўных наступстваў аварыі. Ва ўмовах міжнароднай ізаляцыі рэжыму Лукашэнкі Беларусь не атрымлівае ў неабходных памерах гуманітарную дапамогу: лекі, мэдычнае абсталяваньне, мяркуе Мілінкевіч.

Ён нагадаў таксама, што ў 2004 годзе ўказам Аляксандра Лукашэнкі пастаўлена пад пытаньне аздараўленьне дзяцей з забруджаных тэрыторыяў за мяжой. Лукашэнка матываваў гэта тым, што дзеці вяртаюцца «зь іншым сьветапоглядам».

— Улада скарачае дапамогу людзям у Чарнобыльскай зоне. Пастаянна адміністрацыйным шляхам зьмяншаецца колькасьць населеных пунктаў, якія знаходзяцца ў зоне радыяцыйнага забруджаньня, — кажа Мілінкевіч. — Зьмена статуса гэтых населеных пунктаў вядзе да адмены льготаў насельніцтву, якое там пражывае. Таксама скарачаюцца льготы ліквідатарам аварыі на ЧАЭС. Сёньня на разглядзе Савета міністраў знаходзіцца праект пастановы, якая прадугледжвае скарачэньне памеру льготаў ліквідатарам.

24 красавіка візыт Мілінкевіча ў чарнобыльскія раёны Беларусі працягнецца на Магілёўшчыне

# Працягваецца справа К.Шацікавай

**У панядзелак грамадзкая актывістка Крысьціна Шацікава падала дзьве скаргі — у суд Кастрычніцкага раёну Магілёву ды ў Міністэрства аховы здароў'я.**

Нагадаем, напярэдадні Дня Волі К. Шацікаву, маці дваіх дзяцей, выкралі ў цэнтры гораду ды беспадстаўна зьмясьцілі ў псыхіятрычную лякарню. Тры дні грамадзкая актывістка правяла там. Толькі праз актыўнасьць маці й сябры Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ірыны Качаравай актывістку вызвалілі. Цяпер па заяве Шацікавай пракуратура распачала следзтва. І высьвятляецца, што дактары баяцца прыходзіць на допыты. Так, зьявіўся пакуль што толькі Мікалай Мешчанкоў — мэдык, які прымаў Шацікаву ў першы дзень яе знаходжаньня ў лякарні, астатнія праігнаравалі позвы. У выніку сьледчы папярэдзіў, што тыя могуць быць прымусова дастаўленыя ў пракуратуру. У панядзелак сьледчы Раман Дзьмітрычэнка падрабязна дапытаў саму пацярпелую. Выявілася, што Шацікава не зьявілася на допыт па першай позве з-за таго, што знаходзілася ў Маскве. Там яна праходзіла абсьледаваньне ў Незалежнай псыхіятрычнай асацыяцыі Расеі, якая выдала заключэньне, што грамадзянка Беларусі Шацікава Крысьціна псыхічна здаровы чалавек. Дакумэнт за подпісам лекара-псыхіятра вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі кандыдата мэдычных навук Ю. Савенка прад'яўлены сьледчаму.

***Аляксандар Буракоў***

# Польшча паспрыяе беларускім працоўным

**Празь месяц польскі рынак працы можа быць адкрыты для беларусаў. Пра гэта заявіў у нядзелю намесьнік міністра працы Польшчы Казімеж Кубэрскі ў інтэрвію тэлеканалу TVN24.**

Паводле Кубэрскага, беларусы ды ўкраінцы будуць мець палёгкі пры ўладкаваньні на працу на тэрыторыі Польшчы. Цяпер працоўным ня трэба мець адмысловага дазволу на працу, а працадаўцы ня будуць адлічваць у бюджэт за кожнага працаўніка з Усходу 1.000 злотых. Устаноўлены тэрмін — 3 месяцы цягам поўгоду ці 6 месяцаў на год.

Працэдура найма будзе рэгулявацца адно толькі пасьведчаньнем з боку працадаўцы. Падобнымі палёгкамі дагэтуль карысталіся толькі тыя, хто працаваў у сфэры сельскай гаспадаркі Польшчы. Новы закон мае ахапіць усе астатнія галіны. Старшыня Падляшскай канфэдэрацыі працадаўцаў Міхал Жынеўскі ў інтэрвію Рацыі заявіў, што рэалізацыя гэтага закону надта важная ў гэты час, асабліва для гандлю і будаўніцтва, дзе цяпер адчуваецца асаблівая нястача працоўных.

Жынеўскі: «Сёньня польскі рынак надта вымагае наяўнасьці працоўнай сілы. Нам патрэбна як мага болей працаўнікоў. Асабліва церпіць ад нястачы людзей будаўнічая сфэра. Але не яна адна — нароўні зь ёй і гандаль. Лічым, што як мага хутчэй трэба ўрэгуляваць адносіны, датычныя найманьня працоўных. І сьмялей адкрываць рынак для працаўнікоў з Усходу. Прычым ня толькі зь Беларусі ці Украіны, але і з Азіі. Зь Віетнаму нават...»

Імкненьне польскага Міністэрства працы знайшло станоўчы водгук у Беларусі. Старшыня таварыства «Беларусь-Польшча», загадчык катэдры дыпляматычнай службы факультэту міжнародных адносінаў БДУ Леанід Лойка вітае такое рашэньне й мяркуе, што яно пойдзе выключна на карысьць абодвум бакам.

Лойка: «Пэўна што зьнізіцца ўзровень беспрацоўя. Па-другое, у беларусаў падвысіцца матэрыяльны ўзровень, маю спадзеў, што ў Польшчы заробкі трохі вышэйшыя. А па-трэцяе, праз Польшчу Беларусь уступае ў кантакт з эўрапейскай культурай, культурай працы і ўзроўнем прафэсійнасьці ў тым ліку. Як бачым, для Беларусі — адны плюсы».

Не зусім згодны з гэтым меркаваньнем экс-міністар працы Беларусі Аляксандар Сасноў.

Сасноў: «Улічыце, што людзі будуць працаваць на іншую краіну. А маглі бы працаваць і тут, каб у нас прайшлі рынкавыя рэформы. Але ж бачыце, што цяпер у Беларусі робіцца... А людзям трэба жыць, таму і радыя ў Польшчу ехаць».

Прафсаюзны лідэр Аляксандар Ярашук згодны, што ў Беларусі нічога ня робіцца дзеля стварэньня новых працоўных месцаў. Аднак легальная праца без дазволу ў суседняй краіне можа стаць паратункам для тых, хто апынуўся беспрацоўным на Радзіме, мяркуе старшыня Беларускай канфэдэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў.

Ярашук: «У нас і дэкляруецца, што беспрацоўя няма — усяго 1,5% нібыта складае ўзровень, хоць на самой справе ён сягае 7-8% і будзе падвышацца надалей. З гэтага пункту гледжаньня можна вітаць рашэньне даць магчымасьць падзарабіць людзям, якія засталіся без працы. Хоць бы і тры месяцы на год».

Ці можа праца ў Польшчы з увядзеньнем пэўных ільготаў скласьці канкурэнцыю нелегальнай і небясьпечнай працы ў Расеі? Аляксандар Сасноў мяркуе, што тут усё залежыць ад мэнталітэту ды скіраванасьці беларускіх працаўнікоў.

Сасноў: «Тут ёсьць шэраг праблемаў — моўных, канфэсійных. Але ў нейкай ступені гэта павінна паўплываць. Тыя, каго Захад больш прыцягвае, абавязкова скарыстаюць такую магчымасьць. Тыя, каго вабіць Усход, як езьдзілі, так і будуць езьдзіць туды».

***Сяргей Будкін***

**Belngo.info**

## “Асацыяцыя вольных беларускіх гісторыкаў” плянуе правесьці ўстаноўчы сход

Грамадзкае аб’яднаньне “Асацыяцыя вольных беларускіх гісторыкаў” плянуе правесьці ўстаноўчы сход напрыканцы кастрычніка. Аб гэтым паведаміла старшыня арганізацыйнага камітэту грамадзкага аб’яднаньня Ніна Стужынская.

“На апошнім сходзе прысутнічала шмат людзей. І гэта мяне вельмі радуе, – распавядае Н. Стужынская. – Падчас апошняга пасяджаньня мы канчататкова вызначыліся з назвай: “Асацыяцыя вольных беларускіх гісторыкаў”. Канешне, разглядаліся магчымасьці надаць нашай асацыяцыі юрыдычны статус. Мы атрымалі прпанову ўвайсьці ў склад міжнароднага грамадзкага аб’яднаньня “Акадэмія гістарычнай памяці”, якое месьціцца ў Вільні. Зараз спадар Кіштымаў займаецца вырашэньнем гэтага пытаньня”.

На наступным тыдні “Асацыяцыя вольных беларускіх гісторыкаў” плянуе правесьці арганізацыйны сход, на якім і будзе прызначана дата ўстаноўчага сходу. Паводле словаў Ніны Стужынскай, праекты неабходных дакумэнтаў ужо ёсьць.

Спн. Стужынская не выключае, што асацыяцыя паспрабуе атрымаць юрыдычную рэгістрацыю ў Беларусі ці далучыцца да грамадзкага аб’яднаньня, якое ўжо мае афіцыйны статус.

Аб’яднацца ў “Асацыяцыю вольных беларускіх гісторыкаў” вырашылі звольненыя з палітычных матываў з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі дасьледнікі і гісторыкі – Ніна Стужынская, Тацяна Працька, Генадзь Сагановіч, Андрэй Кіштымаў, Сяргей Тарасаў і іншыя.

*Марыя Кароль*

## У Бабруйску былыя вязьні фашызму адзначылі жалобную дату

Урачыста-памінальнай праграмай у гарадзкім тэатры адзначыла Дзень вызваленьня вязьняў фашысцкіх канцлягераў Бабруйская грамадзкая арганізацыя былых ахвяр фашызму “Лёс”. Цэнтральным мерапрыемствам дня стаўся канцэрт-рэквіем, прысьвечаны жахлівым падзеям другой сусьветнай вайны. Старшыня ГА “Лёс” Зоя Міцэвіч па шматгадовай традыцыі сымбалічнай пераклічкай згадала імёны памерлых сяброў суполкі. Па заканчэньні канцэрту сябры арганізацыі, а ў асноўным гэта жанчыны, прайшлі да гарадзкой плошчы Перамогі, дзе ля каменя-помніка прачыталі памінальную малітву ды ўсклалі кветкі, а таксама хвілінай маўчаньня ўшанавалі памяць загінуўшых у гады вайны ды памерлых ужо за мірным часам. Грамадзкае аб’яднаньне былых вязьняў фашызму “Лёс” у Бабруйску была створана ў сакавіку 1998 года. Тады ў шэрагах арганізацыі налічвалася чатыры тысячы чалавек. За два апошнія гады з 1975-ці былых вязьняў, што жывуць на сёньняшні дзень у Бабруйску і раёне, памерла 284 чалавекі. Ды і самым малодшым з “Лёса”, тым, хто быў народжаны ў канцы вайны на тэрыторыі Германіі, ужо далёка за 60.

*Людміла Родзікава*

## Магілёўская “Пралеска” абвесьціла пра свае пршасныя намеры і пляны

Гэтая новая ў рэгіёне грамадзкая ініцыятыва месяц таму аб’яднала каля дзесяці жанчынаў рознага ўзросту і сацыяльнага статусу, якія выявілі жаданьне дапамагаць сабе, грамадзтву і дзяржаве ў вырашэньні сямейных, дзіцячых і жаночых праблемаў.

Лідэрка гэтага праекту Надзея Салаўёва ў часе наладжанай днямі грамадзкай прэзэнтацыі ініцыятывы распавяла некальким дзясяткам прысутных аб бліжэйшых плянах новага нефармальнага згуртаваньня. Удзельнікі прэзэнтацыі таксама мелі магчымасьць атрымаць тэматычны буклет пра мэты ініцыятывы.

“Пралеска” мае намер атрымаць дзяржаўную рэгістрацыю. На думку кабетаў, гэта дазволіць суполцы хутчэй займець сваё акрэсьленае месца і наладзіць неабходныя дзелавыя сувязі ў асяродзьдзі “трэцяга сэктару” і ў тых дзяржаўных структурах, што займаюцца праблемамі сям’і. Але, як было заяўлена, “Пралеска” пачынае рэальна працаваць нават і без афіцыйнага прызнаньня. Праблемы, якімі апякуецца новая жаночая ініцыятыва, як кажуць удзельніцы ініцыятывы, “ня могуць чакаць ніводнага дня”.

*Віктар Войт*

## У Магілёве прайшла прэзэнтацыя дакумэнтальнай стужкі Віктара Корзуна “Верыць толькі ветру”

Грамадзкі прагляд фільма быў арганізаваны рэгіянальным Цэнтрам маладзёвых ініцыятываў, які спэцыялізуецца на асьветніцкай працы з моладзьдзю. Паглядзець на стужку, прысьвечаную Чарнобылю, сабралося дастаткова шмат старшаклясьнікаў і студэнтаў.

За некалькі хвілін перад пачаткам прагляду стала вядома, што Віктар Корзун асабіста ня зможа прысутнічаць на магілёўскай прэзэнтацыі, як было папярэдне абвешчана. Аднак хутка выявілася, што адсутнасьць аўтара не зашкодзіла самому ўспрыняцьцю фільма.

“Верыць толькі ветру” гаворыць гледачам усё, што трэба, сам – без дадатковых камэнтароў і тлумачэньняў. Шчыры фільм на пост-чарнобыльскую тэматыку зроблены з увагай і любоўю як да пэрсанажаў, так і да гледачоў, пакідаючы ім неабходную прастору для асабістых высноваў і эмоцыяў.

Менавіта такім чынам, як пра гэта казалі самі ўдзельнікі прэзэнтацыйнага прагляду, фільм паўплываў на магілёўскую моладзь.

*Віктар Войт*

## Бабруйская «Вясна» прэзэнтавала новы зборнік

Днямі адбылася грамадзкая прэзэнтацыя новага зборніка паэзіі самадзейнага аб’яднаньня “Вясна”. Кніжка, прадстаўленая на ўвагу чытача, мае назву “Родничкі душевного порыва”. У ёй зьмешчаны вершы дванаццаці бабруйскіх паэтаў, пяцёра зь якіх – сябры гарадзкога таварыства інвалідаў.

Сустрэча з паэтамі, якую зладзіў клюб пэнсіянэрак “Яшчэ ня вечар”, доўжылася больш за дзьве гадзіны. Прысутныя цёпла сустрэлі вершы ў аўтарскім выкананьні Міхайлавай, Бацютавай, Сьцефаненка, Булко, Касьцяна.

Пакуль кніжка выдадзена накладам усяго ў 25 асобнікаў – па два асобнікі кожнаму з аўтараў. Паводле словаў кіраўніка самадейнага паэтычнага клюба Васіля Касьцяна, спачатку гарвыканкам паабяцаў ім фінансавую падтрымку, але нешта не атрымалася, і друкавацца давялося за свой кошт. Літаратары спадзяюцца, што да 9 траўня праблема будзе вырашаная, і ўдасца аддрукаваць яшчэ па 5 асобнікаў кожнаму з аўтараў.

*Людміла Родзікава*

## У Магілёве ня будзе сумеснага адзначэньня Чарнобыльскай гадавіны ўладамі і дэмакратамі

Напярэдадні 21-й гадавіны з дня Чарнобыльскай аварыі некалькі грамадзкіх дэмакратычных арганізацыяў скіравалі ліст старшыні Магілёўскага гарвыканкама Віктару Шорыкаву з прапановай сваёй дапамогі ў арганізацыі і правядзеньні гарадзкіх мерапрыемстваў, прысьвечаных гадавіне трагедыі.

У аказе на гэты зварот, які падпісаў першы намесьнік старшыні Алег Ліцянкоў, улада пагадзілася на ўдзел прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадзкасьці толькі ў адным мерапрыемстве - у жалобным мітынгу каля Магілёўскага помніка ліквідатарам аварыі на ЧАЭС. Гэты мітынг ладзіць, як паведамляецца ў афіцыйным лісьце, Асацыяцыя работнікаў праваахоўных органаў "Шчыт Чарнобыля". Дэмакраты, падкрэсьліваецца ў адказе, могуць на ім прысутнічаць – як і ўсе іншыя грамадзяне. Зь ліста незразумела, ці прадугледжваюцца ў часе гэтай акцыі прамовы ўдзельнікаў, альбо гэта будзе маўклівая цырымонія ўскладаньня да помніка кветак і вянкоў. Дэмакратаў засмуціла таксама й тое, што яны ўпершыню з гэтага ліста даведаліся пра існаваньне ў горадзе грамадзкай міліцэйскай арганізацыі, аб якой у адказе гаворыцца як пра нібыта актыўна дзейную.

Ні пра якія іншыя гарадзкія мерапрыемствы, як аб гэтым прасілі дэмакраты ў сваім звароце, ліст з гарвыканкаму не паведамляе. Няма ў ім таксама і згоды на сумесны выраб і распаўсюд адпаведнай інфармацыйнай прадукцыі.

Такім чынам, крок дэмакратычных актывістаў насустрач уладзе ў пярэдадзень Чарнобыльскай гадавіны застаўся без падтрымкі.

*Віктар Войт*

## На Палесьсі памятаюць пра Чарнобыль

У Мазыры прайшоў круглы стол, прысьвечаны чарнобыльскай праблематыцы. Удзельнікамі мерапрыемства сталі ліквідатары аварыі на ЧАЭС, а таксама грамадзкія актывісты Мазыра і Калінкавіч, а таксама старшыня Палітрады Аб'яднаных дэмакратычных сілаў Аляксандар Мілінкевіч.

Тэмамі круглага стала былі сёньняшні стан чарнобыльскай праблемы ў грамадзтве, скасаваньне ільготаў чарнобыльцам, а таксама пазбаўленьне тэрыторыяў статусу забруджаных.

Скончылася мерапрыемства ўскладаньнем кветак да мэмарыялу ахвярам аварыі на ЧАЭС.

*Аляксей Маневіч*

## Роздум пра гуманітарную дапамогу

Ці зьяўляецца замежная дапамога вырашэньнем глябальнай галечы? Да ўдзелу ў конкурсе эсэ на гэтую тэму запрашае студэнтаў ды маладых навукоўцаў Праграма стыпэндыяў імя Олайва У.Гарві,ЗША.

Удзельнічаць у творчым спаборы могуць маладыя людзі ва ўзросьце да 35 год уключна. Для пераможцы конкурса сярод маладых навукоўцаў вызначана грашовая прэмія ў $10000. За першае месца сярод студэнтаў прэмія складае $2500. Лепшыя эсэ будуць выстаўленыя на сайце Independent Institute, а таксама парэкамэндаваныя да апублікаваньня ў вядомых выданьнях.

Праграма стыпэндыяў імя Олайва У. Гарві ў ЗША скіраваная на разьвіцьцё крытычнага мысьленьня ды гуманітарнай адукаванасьці маладых людзей, якія задумваюцца над пытаньнямі спалучэньня асабістай свабоды чалавека ды пэрсанальнай адказнасьці ў жыцьці.]

Апошні трэмін падачы эсэ 1 траўня. Іншыя падрабязнасьці спабору. А таксама формы для падачы эсэ знаходзяцца па адрасе: *http://www.independent.org/students/garvey*

*Людміла Родзікава*

## Спабор для школьнікаў на ўдзел у "Народным альбоме"

Рэспубліканскае грамадзкае аб'яднаньне "Таварыства беларускай школы" аб'явіла конкурс для школьнікаў на ўдзел у міжнародным праекце, вынікам якога будзе новая пастаноўка музычнага спэктаклю "Народны альбом". Рэпэтыцыі і паказы спэктаклю адбудуцца падчас летніх вакацыяў у Беларусі і Польшчы – у гарадах Варшава, Гданьск, Закапанэ.

Да ўдзелу ў спаборы запрашаюцца навучэнцы 8 – 10 клясаў, якія маюць акторскія і вакальныя здольнасьці. Вітаецца ўдзел вучняў з сярэдніх школ і клясаў з тэатральным, мастацкім, музычным, харэаграфічным ухіламі, а таксама навучэнцаў школаў мастацтваў. Аднак у спаборы могуць браць удзел і падлеткі, якія не навучаюцца ў спецыялізаваных клясах ці мастацкіх школах. Жадаючыя паспрабаваць сябе могуць тэлефанаваць на (029) 692 55 13, (029) 333 15 56. Гэта будзе ўжо трэцяя пастаноўка "Народнага альбому" з удзелам таленавітых навучэнцаў. Прэмьера была падрыхтавана ў калектыве Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. Летась адбылася другая пастаноўка. Дзеяньне спэктаклю разгортваецца ў 30-х гг. мінулага стагоддзя ў Заходняй Беларусі, якая ў той час знаходзілася ў складзе Польшчы. Пастаноўкі спэктаклю мелі вялікі посьпех сярод беларускіх і польскіх гледачоў.

*Тэльман Масьлюкоў*

## Что вы знаете о Чернобыльской трагедии?

***С таким вопросом мы обратились к молодым людям на улицах нашего города.***

***Валерий, студент Мехфака БГСХА:***

- Не знать об этом по-моему стыдно. Это самая страшная трагедия в истории человечества. И очень жаль, что большинство радиоактивной грязи досталось нашей Беларуси.

***Андрей, студент-заочник:***

- Я сам из Гомельской области. Там все знают о том, что произошло, но теперь уже привыкли к жизни с радиацией. К тому же государство людей успокаивает по-моему слишком уж рьяно. Лучше бы лечили людей, а то сейчас, говорят, и последние льготы заберут.

***Миша, старшеклассник:***

- Там был взрыв станции, который разрушил город и теперь над ним построили саркофаг, чтобы радиация не распространялась.

***Ольга, студентка, но не БГСХА:***

- Тогда, я знаю, было все ужасно. От людей скрывали правду. Теперь же научились с радиацией бороться и даже руководители страны ездят в Чернобыль без опаски. Но я бы все равно туда не поехала.

***Галина, студентка 3-го курса Бухфака:***

- Ну, об этом все знают. Даже каждый год в Минске марш проходит. И его не разгоняют, как демонстрации. Значит правительство тоже заботится о людях, которые пострадали от аварии на станции.

***Валерий, ученик 10-го класса:***

- Мой папа родом из Краснополья. Их переселили, когда я еще не родился. Мы туда ездим на кладбище иногда. Там сейчас неуютно, а раньше жило много людей.

***Александр, студент, будущий инженер:***

- Надо уметь обращаться со сложной техникой, тогда и аварий не будет. Ведь и трактор, если его неправильно эксплуатировать, может наделать беды. А здесь – атом. Люди, которые с ним работают, должны быть очень ответственными и грамотными.

***Беседовал Иван МОРОЗОВ***

«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР» Антибашистская газета. №16, апрель 2007г. Издатель и главный редактор -Эдуард БРОКАРЕВ. Тел. 545 89 83. Издание непериодическое, выходит по мере возможности. Тираж 299 экземпляров.